ЯК СМЕЦЦЕ З МАГІЛЁВА



КОРМІЦЬ СОТНІ ЛЮДЗЕЙ

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

КАЛІ БЕЛАРУСЫ

АТРЫМАЮЦЬ «ОСКАРА»?



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

21.02.13-27.02.13 г.

# КАМУ “САЮЗКАЛІЙ” ПАКАЖА “КУЗЬКАВУ МАЦІ”

**Беларусь і Расія ствараюць яшчэ адну кампанію па продажы калійных угнаенняў. Савет дырэктараў ААТ «Уралкалій» ухваліў заснаванне сумеснага з ААТ «Беларуськалій» трэйдара калійных угнаенняў «Саюзкалій» (Soyuzkali GmbH).**




*Калій – галоўнае прыроднае багацце Беларусі*

### ЧАКАЕМ НАШЫХ...

Згодна з рашэннем савета дырэктараў, новая расійска-беларуская кампанія будзе зарэгістравана ў Швейцарыі ў кантоне Цуг. Статутны капітал «Саюзкалію» складзе 200 тысяч швейцарскіх франкаў і будзе аплачаны грашовымі сродкамі. Доля «Уралкалію» ў статутным капітале сумеснай кампаніі складзе 50%.

Зараз расійскі бок чакае адпаведнага рашэння сваіх беларускіх калег.

У Беларусі да прыняцця гэтага праекта ўсё гатова. Указ прэзідэнта Беларусі № 566 ад 22 снежня ўнёс змены ва ўказ № 398 ад 25 жніўня 2005 года. У адпаведнасці з імі, выключнае права знешняга гандлю калійнымі ўгнаеннямі могуць рэалізоўваць ААТ «Беларуськалій», ЗАТ «Беларуская калійная кампанія» (БКК) і «іншыя арганізацыі, вызначаныя прэзідэнтам Беларусі». Усе эксперты сышліся ў меркаванні аб тым, што гэты ўказ стаў падрыхтоўкай да стварэння «Саюзкалія».

### А ЯК ЖА БКК?

На сёння эксклюзіўным пастаўшчыком калійных угнаенняў вытворчасці «Беларуськалію» і «Уралкалію» на замежныя рынкі з'яўляецца ЗАТ «Беларуская калійная кампанія», створаная ў 2005 годзе. Яе акцыянерамі выступаюць «Беларуськалій» (45%), Беларуская чыгунка (5%) і «Уралкалій» (50%). Доля БКК на сусветным рынку экспарту калійных угнаенняў складае больш за 40%. БКК экспартуе калійныя ўгнаенні ў Еўропу, Індыю, Кітай, Цэнтральную і Паўднёвую Амерыку, ЗША, Азіяцка-Ціхаакіянскі рэгіён, Афрыку і Блізкі Усход.

Згодна з падрыхтаванымі дакументамі, «Саюзкалій» будзе працаваць па тых жа прынцыпах, што і БКК: усе экспартныя кантракты будуць падпісвацца праз «Саюзкалій», а аб'ём долей «Уралкалію» і «Беларуськалію» будзе залежаць ад патэнцыяльных вытворчых магутнасцей кожнага з прадпрыемстваў.

«Беларуськалій» і «Уралкалій» пры стварэнні БКК падпісалі пагадненне, у адпаведнасці з якім экспартныя квоты паміж акцыянерамі размяркоўваюцца зыходзячы з іх вытворчых магутнасцей: на пачатковым этапе доля «Беларуськалію» складала каля 60%, «Уралкалію» — 40%.

Аднак пасля аб'яднання «Уралкалію» і яшчэ аднаго расійскага вытворцы ўгнаенняў — «Сільвініта» максімальныя вытворчыя магутнасці «Уралкалію» выраслі ў 2012 годзе да 12,5 мільёна тон, а магутнасці «Беларуськалію» засталіся ранейшымі — 10,3 мільёна тон. Адпаведна, экспартная квота расійскага боку склала 52,5%, беларускага — 47,5%. У верасні бягучага года бакі дамовіліся павялічыць беларускую долю ў экспарце калійных угнаенняў праз БКК да 49,15%, а расійскую — знізіць да 50,85%.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## ЭКС-КІРАЎНІКІ СОЧЫНСКАГА САНАТОРЫЯ ЗНАЙШЛІСЯ Ў СІЗА КДБ

**Там апынуліся і былы дырэктар санаторыя “Беларусь” Георгій Саракашыш і яго намесніка Аляксандр Кізім., паведамляе Еўрарадыё.**

«Народная Воля» даведалася ў амбасадзе Расіі ў Беларусі, што расійскія дыпламаты ўжо наведалі следчы ізалятар КДБ. Нагадаем, што кіраўнікі санаторыя «Беларусь — расійскія грамадзяне.

Дарадца амбасадара Расіі ў Беларусі Уладзімір Марчукоў паведаміў, што дыпмісія накіравалаі ноту ў МЗС Беларусі і папрасіла забяспечыць сустрэчу з арыштаванымі. Адбылася размова дыпламатаў з прадстаўнікамі Генпракуратуры на гэты конт.

Нагадаем, што непацверджаныя звесткі пра арышт кіраўнікоў санаторыя з'явіліся некалькі дзён таму. Нядаўна Сочы наведаў кіраўнік Беларусі, які заклікаў ўзмацніць падрыхтоўку алімпійскіх аб'ектаў.

# РАСІЯНЕ ЎЖО ЛІЧАЦЬ БЕЛАРУСЬ СВАЁЙ ВОТЧЫНАЙ?

Непракрыта расіяне бачаць нашу краіну адной са сваіх воласцей. Чаму так адбываецца, спрабуе разабрацца “Тут і цяпер”.

**ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ, ФІЛОСАФ:**

### “МЫ ДАЁМ РАСІЯНАМ ПАДСТАВЫ ТАК ЛІЧЫЦЬ”

— Калі я чую нешта падобнае, мяне гэта не проста раздражняе: я выбухаю самымі бруднымі словамі, якія ў мяне толькі ёсць! Разам з тым няцяжка зразумець, чаму так адбываецца. Па-першае, расіяне застаюцца імперцамі і будуць яшчэ доўга імі заставацца. Трэба, каб Расія ўвогуле на кавалкі развалілася. Але і потым яны будуць думаць так, як думаюць цяпер, бо ментальныя змены адбываюцца вельмі марудна. Рускі чалавек — імперскі чалавек па азначэнні. Аднак ёсць яшчэ адзін момант: палітыка беларускай дзяржавы апошнія дваццаць гадоў і непасрэдны герой, які ёю кіруе. Усе гэтыя гады амаль штодня было чуваць, што мы адзіны народ. Мы даём падставы так лічыць і расіянам, чым яны з радасцю карыстаюцца. Але нават адносна ўкраінцаў сказаць, што “мы адно цэлае”, становіцца ўсё складаней нават самым апантаным імперыялістам. І гэта будзе яшчэ доўга працягвацца. Больш за тое, пэўная частка насельніцтва Беларусі згодная гэта ўспрымаць з сімпатыяй. Але гэта не дамінантная тэндэнцыя. Гэта маргіналія. Але для таго, каб разарваць гэтую гнілую пупавіну, трэба найперш, каб мы выразна заартыкулявалі, прычым сістэмна, на розных узроўнях, сваю асобнасць, нягледзячы на ўсе эканамічныя і мытныя саюзы. Але такое стаўленне да нас з цягам часу зменіцца. І не таму, што зменіцца імперская свядомасць расіян. Мы ўсе разам, і расіяне, і беларусы, уваходзім у глабалізаваны свет, і неўзабаве крытэрыі імперыі перастануць адыгрываць істотную ролю.

**ВІНЦУК ВЯЧОРКА, ПАЛІТЫК:**

### “РАСІЯНЕ ПА ПРЫРОДЗЕ СВАЁЙ НЕВЫЛЕЧНЫЯ ІМПЕРЫЯЛІСТЫ”

— На зло заўсёды можна глядзець з двух бакоў. Можна гаварыць, што мы самі вінаваты, што дапусцілі такую сітуацыю. Але, выбачайце, украінцы яшчэ тры-чатыры гады назад абсалютна не дапускалі, каб Расія лічыла Украіну сваёй вотчынай. Не дапускаюць гэтага ні на ментальным, ні на дзяржаўным узроўні і літоўцы, і грузіны. А яна іх усё роўна лічыць! І Польшчу, і Балгарыю, і Румынію, і Манголію. Іншая рэч, як у Беларусі пазацыянуецца звычайны чалавек. Ён, заліты салодкім брудам расійскай папсовай культуры праз тэлебачанне, а праз афіцыйную прапаганду — гэткім жэле расійска-савецкай псеўдагістарычнай памяці пра агульны лёс і супольныя перамогі, не можа вырвацца з гэтай слізі. І тут ужо выходзіць на пярэдні план роля дзяржавы, якая называе сябе Беларуссю. Сёння гэтая дзяржава не абараняе сваіх людзей ад замаху на іх свядомасць з боку іншай дзяржавы. І калі па беларускім радыё ты чуеш тэрмін “айчынныя выканаўцы” ў дачыненні да розных “наташ каралёвых”, то нічога дзіўнага няма ў тым, што ў сярэдняга беларуса не прачынаецца пачуццё пратэсту пры словах расійскага чыноўніка “нас”, “мы” ў дачыненні да Беларусі.



*Расійскі мядзведзь не такі бяскрыўдны, як можа падасцца некаторым*

**СЯРГЕЙ БАЛЫКІН, ЭКАНАМІСТ:**

### “ТУТ НЯМА ПРАБЛЕМЫ”

— Я думаю, што Беларусь у Расіі разглядаецца не як правінцыя, а як адзіная дзяржава, адгалінаванне рускага народа. У расійскай імперыі беларусы таксама лічыліся тытульнай нацыяй, як украінцы і рускія. Ніхто не дыскрымінаваў іх па нацыянальнай прыкмеце. Няма тут праблемы. Асабіста я не разглядаю Расію як замежжа. Тут ёсць праблема абвостранага ўспрыняцця. Але гэта праблема беларускіх нацыяналістаў і іх комплексаў. Нацыянальнае пытанне другаснае, бо, як у Бібліі сказана, няма ні эліна, ні іўдзея. Я не бачу тут праблемы. У мяне з піцерскім прафесарам больш агульнага, чым з якім мясцовым гопнікам. Нацыянальныя праблемы створаны штучна.

**ВОЛЬГА КУЛЕШ, НАСТАЎНІЦА РУСКАЙ МОВЫ І ЛІТАРАТУРЫ:**

### “ГЭТА ПАЧУЦЦЁ БЕЗ ЗЛОСЦІ”.

— Рускія ўспрымаюць Беларусь не як вотчыну. Яны ўспрымаюць нас як частку сябе. Адарваную частку. Вось Украіну яны ўспрымаюць як частку імперыі — Кіеў, “маць гарадоў рускіх”. А з намі яны не вызначыліся: ці мы частка імперыі, ці частка метраполіі. Яны адчуваюць братэрскія пачуцці да не вельмі ўдалага брата. Мяне вельмі кранаюць іх адносіны да нас — гэта такія глыбокія пачуцці, як да брата з вельмі няпростым лёсам. Да ўкраінцаў адносіны не вельмі добрыя. “Вы нам яшчэ за Севастопаль адкажаце…”. А да нас такое вельмі спецыфічнае стаўленне.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**АФІЦЫЙНА**

**“Да Злучаных Штатаў, якія крытыкуюць Беларусь з нагоды выбараў, ёсць прэтэнзіі”, — заявіў журналістам першы намеснік старшыні Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расіі АляксандрТоршын, як перадае карэспандэнт БелТА.**

Аляксандр Торшын растлумачыў, што ў мінулым годзе быў назіральнікам на выбарах у штаце Тэнэсі (ЗША). «Яны нас вучаць, а самі робяць. **(...)** Напрыклад, у ЗША заахвочваецца датэрміновае галасаванне. За гэта нават узнагароджваюць. Але вы памятаеце, якія прэтэнзіі былі прад›яўлены Беларусі і кім. Менавіта тымі, хто ў сябе заахвочвае датэрміновае галасаванне. І такіх пытанняў шмат **—** калі самі практыкуюць, а нас пачынаюць потым вучыць**”.**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# КАМУ "САЮЗКАЛІЙ" ПАКАЖА "КУЗЬКАВУ МАЦІ"

## ІМІДЖ НІШТО?

Доктар эканамічных навук **прафесар Барыс Жаліба** лічыць, што стварэнне «Саюзкалію» — гэта, хутчэй, іміджавы праект расійскага боку. «Расіян даўно не задавальняла тое, што продаж, у тым ліку і ўгнаенняў «Уралкалію», ажыццяўляўся пад беларускай шыльдай. Усё ж такі прадаваць расійскія ўгнаенні пад брэндам «Беларуская калійная кампанія» няправільна. Так што стварэнне «Саюзкалію» — гэта яшчэ і іміджавы крок, усе застаюцца задаволенымі», — кажа Жаліба.

З іншага боку, расіяне крыху напружваюцца з нагоды «беларускай» кампаніі яшчэ і таму, што канцэрн «Белнафтахім» трапляе пад санкцыі ЗША. «Стварэнне «Саюзкалію» як бы «здымае» прыналежнасць угнаенняў да Беларусі і «Белнафтахіма», паколькі нічога беларускага ў гэтай назве няма», — кажа Жаліба.

А трэці іміджавы момант тычыцца непасрэдна прэзідэнтаў Расіі і Беларусі. «Назва «Саюзкалій» падкрэслівае, што рух па шляху інтэграцыі і кааперацыі моцны і непазбежны, што гэта прагрэс у рамках Саюзнай дзяржавы і іншых стратэгій аб'яднання эканамічных сістэм дзвюх краін», — адзначае Жаліба. Ізноў у паветры павісае пытанне з паўнавартаснай незалежнасцю нашай дзяржавы.

## САЮЗ СУПРАЦЬ КАНАДЦАЎ

Такім чынам, у распараджэнні тандэма «Беларуськалій» — «Уралкалій» аказваюцца дзве структуры з аднолькавымі функцыямі гандлю аднолькавым таварам — угнаеннямі. Навошта трымаць два штаты супрацоўнікаў замест аднаго? На думку Жалібы, паўстае пытанне, што рабіць з БКК.

Выйсце ён бачыць у тым, каб пакінуць за БКК традыцыйныя рынкі — Кітай, Індыю і Бразілію. «Калі «Саюзкалій» рэгіструецца ў Швейцарыі, то аўтаматычна перад ім ставіцца задача заваяваць новыя рынкі ўгнаенняў, перш за ўсё еўрапейскія. Галоўная праблема «Саюзкалію» — канкурэнцыя з канадцамі. Яны і так адхапілі ў нас частку кітайскага рынку, скінуўшы цану на сваё ўгнаенні да 400 долараў за тону. Гэта вялікая поўха БКК, і цяпер «Саюзкалій» павінен жорстка працаваць на рынку супраць канадцаў, паказаць ім «кузькаву маці», — кажа Жаліба.

## А ХОПІЦЬ МАГУТНАСЦЕЙ?

Пытанне толькі ў тым, ці хопіць у Беларусі і Расіі ўгнаенняў, каб апраўдаць існаванне адразу дзвюх кампаній. І ці хопіць грошай на тое, каб іх утрымліваць. Прычым не беларускіх ці расійскіх грошай, а грошай у свеце наогул.

Кітай, на які прыпадае каля 20% аб'ёму сусветных паставак хлорыстага калію, істотна павялічыў уласную вытворчасць угнаенняў. А наступная за ім па аб'ёме закупак Індыя перажыла эканамічны крызіс і дэвальвацыю, у сувязі з чым радыкальна скараціла субсідыі сваім фермерам. У выніку аб'ёмы індыйскіх закупак калію паменшыліся з 6 млн тон у 2011-м да 2,5 млн тон па выніках 2012 года.

У выніку, экспарт «Беларуськалію» скараціўся на 18%. Пікі падзення прыпалі на пачатак 2012 года, а затым — на чэрвень, жнівень і верасень, пасля таго, як скончыліся доўгатэрміновыя кантракты БКК з Кітаем і Індыяй.

Эксперты спадзяюцца, што ў 2013 годзе індыйскі рынак угнаенняў пойдзе «ў рост», аднак чакаць гэтага трэба толькі ў другой палове гэтага года. Так што першае, што неабходна зрабіць, гэта пабудаваць склады, якія будуць «затаварвацца» прадукцыяй для «Саюзкалію».

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# СУДОВЫЯ ПАКУТЫ ГОМЕЛЬСКАГА ПАЛІТЫКА: ІЗНОЎ ПЕРШАЕ КОЛА

Бабруйскі міжгарнізонны суд 15 лютага не стаў разглядаць па сутнасці пазоў кіраўніка Гомельскай абласной арганізацыі Партыі левых "Справядлівы свет" Уладзіміра Сякеркі на дзеянні памежнікаў вайсковай часці № 1242.

Пры канцы мінулага года яны знялі палітыка з цягніка Чарнігаў-Гомель на памежнай станцыі Церуха з прычыны існавання нейкай «спісавай базы дадзеных па даручэнні праваахоўных органаў». Не атрымаў Сякерка і тлумачэнняў ад прадстаўніка Дзяржаўнага памежнага камітэта наконт парадку і прававых падставаў унясення ягонага прозвішча ў так званую «спісавую базу дадзеных».

Ваенны суддзя, маёр юстыцыі Алег Лапека патлумачыў пазоўцу і адказчыкам, што справа спыняецца ў звязку з дасланым прадстаўленнем Гомельскаму абласному суду. Інакш кажучы, ваенны суд лічыць, што Савецкі суд Гомеля, які адмовіўся ў студзені разглядаць прэтэнзіі Уладзіміра Сякеркі да памежнікаў, мусіць разгледзець ягоны пазоў. Менавіта па рэкамендацыі Савецкага суду Уладзімір і падаў пазоў на памежнікаў у Бабруйскі міжгарнізонны ваенны суд.



*Феміда ў Беларусі вельмі своеасаблівая*

Пасля інцыдэнту на беларуска-ўкраінскім памежным пераходзе Уладзіміра Сякерку аштрафавалі на 2 мільёны рублёў за непадпарадкаванне службоўцам. Палітык спрабаваў даведацца пра «спісавую базу дадзеных» і падставы ўнясення свайго прозвішча ў начальніка Гомельскага памежнага атрада, аднак, атрымаў адказ, што ў атрадзе «не валодаюць падобнымі звесткамі».

Падобны адказ атрымаў Уладзімір на сваю скаргу і ад гомельскага міжгарнізоннага ваеннага пракурора. І толькі пасля гэтага Сякерка звярнуўся ў ваенны суд, але той, як бачым, вярнуў палітыка на першапачатковы пункт судовага марафону.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**

# ЯК СМЕЦЦЕ З МАГІЛЁВА КОРМІЦЬ СОТНІ ПРОСТЫХ ЛЮДЗЕЙ

**На Магілёўскім палігоне цвёрдых бытавых адыходаў дзясяткі чалавек жывуць з таго, што выбіраюць са сметнішча ўсё, што можна прадаць альбо выкарыстаць у гаспадарцы, паведамляе Радыё Свабода .**

Сваю працу яны пачынаюць ад ранку і сканчаюць яе, калі сцямнее. Гэтыя людзі адважна кідаюцца пад смеццявозы, каб першымі стаць ля груду адыходаў, прывезеных з гораду.

Ад Магілёва палігон за сямнаццаць кілямэтраў па Гомельскай шашы каля вёскі Новая Мілееўка. Сьметнік уражвае маштабамі і смуродам. Высачэзная гара адкідаў, чарада сьмеццявозаў і — здалёк, нібы мурашы, снуюць людзі каля бульдозера. Яны сустракаюць журналіста ня надта дружалюбна. Некаторыя пагражаюць перацяць жалезінай. Людзі грэюцца ля вогнішчаў, разьведзеных у бочках. У кожнай групы, па пяць-сем чалавек, сваё вогнішча. Тут жаназбіраныя рэчы. У асноўным — пластыкавыя пляшкі. Імі наладаваныя баулы.

Мужчына са счарнелым тварам неахвотна тлумачыць: «За што плацяць, тое і бяром. Пэт-бутэлька ідзе. Яе здаём». На пытанне, ці шмат на ёй можна заробіць, суразмоўнік з усмешкай адказвае, што гэта сакрэт фірмы.

Ну гэта ж не пад царквой стаяць з працягнутай рукой. Красьці ня ўмеем, таму даводзіцца сваёй працай зарабляць

Некаторыя «сакрэты фірмы» выдаў наступны суразмоўца, аднак пра тое, колькі можна на сметніку зарабіць, засталося ўсё ж сакрэтам. «Ну гэта ж не пад царквой стаяць з працягнутай рукой, хаця сёння і нядзеля. Красці ня ўмеем, таму даводзіцца сваёй працай зарабляць. Дарма ж ніхто грошай ня дасць. Даводзіцца працаваць».

Суразмоўцу да пэнсіі засталося два гады. Ён сцвярджае, што на завод яго ніхто ня возьме. Мужчына перакананы, што такія, як ён, на сметніку выконваюць пачэсную місію.

«Вы ж чулі, што прэзідэнт гаварыў, што трэба другасную сыравіну не закопваць у зямлю, ні валютай за яе плаціць, а здабываць сваю. Адкуль мы тады будзем жыць заможна. Народ тут выконвае прагграму прэзідэнта, каб меней траціць валюты, а больш свайго выкарыстоўваць, якое мы выкідваем».

Прамову збіральніка смецьця ягоныя калегі слухалі і зласловілі. Што такога ён казаў, каб з яго кпіць, яны патлумачыць не адважыліся. Пабачыўшы мікрафон, тут жа разбегліся.



*Смецце корміць і будзе карміць шмат каго ў нас*

Яшчэ адна суразмоўніца патлумачыла, што прыйшла на сьметнік навыбіраць свойскай жывёле хлеба. Жанчына жыве непадалёк у вёсцы. «Што ты са мной з пенсіянеркай гаварыць будзеш. Мне 58 гадоў. Ёсць час вольны, прыйду сюды, няма, дык дома сяджу. Тут ладна людзей. Гэта сёння выходны, дык мала. З гораду прыяжджаюць. Аўтобус ходзе. Калі тутэйшыя, як я, то пешшу прыходзім», адказала кабета і кінулася да чарговага сьмеццявоза.

**Вызначыць больш менш дакладна ўзрост збіральнікаў смецця ня проста. Выгляд тутэйшых работнікаў падказваў, што ўсе яны людзі сталага веку.**

У выходны, калі я наведаўся на палігон, у смецці корпалася блізу трох дзясяткаў чалавек. Вызначыць больш менш дакладна ўзрост збіральнікаў смецця ня проста. Выгляд тутэйшых работнікаў падказваў, што ўсе яны людзі сталага веку. Некаторыя з іх, аднак, сцвярджалі, што смецце выбіраюць і нашмат маладзейшыя векам.

Пабыўшы на палігоне з паўгадзіны, я пачаў атрымліваць ад збіральнікаў прапановы распавесці пра жыццё на сметніку за грошы. Цана такой гутаркі вагалася ад 50 да 100 тысяч рублёў. Сто тысяч, як патлумачылі, — гэта дзённы заробак найбольш паспяховых збіральнікаў. «Эй, колькі ты плаціш? Рублёў сто даеш?», чулася здалёк. Тыя, хто спачуваў журналісту, раілі з крыклівымі ня звязвацца, бо могуць сарваць «сто баксаў».

Зарабіць на журналісце ня выйшла. Апошняя гутарка са збіральнікам смецця ля вогнішча суправаджалася ўсё ж тымі кпінамі ад ягоных калегаў і камэрцыйнымі прапановамі. Мужчына, крыху падпіты, зазначае: «Тут людзі свабодныя. Яны ні ад каго не залежаць. У мяне двое дзяцей. Я тут зарабляю сваім гарбом. Калі я буду сядзець, то нічога не заράблю. Тут ведаю, што я адпахаў сваё, прыйшоў дахаты, узяў пляшку вінца, ці піва. Купіў дамоў паесці, з адсюль я не бяру. І ведаю, што мае дзеці накормленыя».

Наколькі шчырымі ў гутарках былі збіральнікі смецця, казаць цяжка. Кожны з іх мае сваю гісторыю жыцця, пра якую не наважыцца распавесці. Мо таму ніводзін і не пагадзіўся, каб яго сфатаграфавалі. Ніхто з іх ня рвецца на прадпрыемствы ці ў калгасы. Яны выбралі сваё месца тут, на сметніку.




*Не клапаціцца аб пенсіянерах дрэнна. І клапаціцца – таксама*

# ДАПАМОГ АДЗІНОКАМУ ПЕНСІЯНЕРУ? ЗАПЛАЦІ ШТРАФ!

**Нараўлянскі раённы суд аштрафаваў 14 лютага на 1 мільён рублёў мазырскіх валанцёраў Леаніда Апалоніна і Яўгена Пракапчука, якія дапамагалі пенсіянеру ў выселенай пасля Чарнобылю вёсцы Белы Бераг.**

Валанцёры прызнаны вінаватымі ў парушэнні рэжыму радыяцыйнай бяспекі ў мясцовасцях, якія падпалі пад радыеактыўнае забруджванне.

Пракапчук: «Мне позва ў суд не прыйшла. Я проста паехаў у Нароўлю падтрымаць Леаніда. Калі ў судзе даведаліся, што я таксама прыехаў, то разгледзелі адміністрацыйны пратакол і ў дачыненні да мяне».

Як мы паведамлялі, пра самотнага пенсіянера Адама Рагаўца з вёскі Белы Бераг Яўген Пракапчук даведаўся з відэасюжэту ў інтэрнэце. Вырашыў з хлопцамі зрабіць добрую справу – дапамагчы чалавеку. Сабралі харчы, цёплую вопратку, лекі першай неабходнасці, набылі запоўнены газавы балён, інструменты для рамонту грубы і паехалі.

Машыну пакінулі на дарозе, а самі пайшлі да старога. Праз гэтую машыну міліцыянты і выявілі наведнікаў. Яны прымусілі валанцёраў ехаць у Нароўлю, дзе склалі ў дачыненьні іх пратаколы паводле часткі 2, артыкулу 16.3 Кодэксу адміністрацыйных парушэнняў.

З міліцыі мазырскія валанцёры выправіліся назад у Белы Бераг, каб усё-ткі даставіць Адаму Рагаўцу неабходныя харчы, вопратку і газавы балён для пліты. Заадно падрамантавалі грубку, уцяплілі вокны.

Яўген Пракапчук паведаміў таксама, што аспрэчваць мільённыя штрафы ён з Леанідам не наважаны. Але яны не збіраюцца пакідаць Адама Рагаўца ў самоце – будуць спрабаваць атрымаць пропуск у радыяцыйную зону.

На канфліктную сытуацыю, якая ўзнікла паміж валанцёрамі з Мазыра і ахоўнікамі зоны радыяцыйнага забруджвання Нараўлянскага раёна, адрэагавала абласная міліцыя. У паведамленні яе прэс-службы было сказана, што 87-гадовы Адам Рагавец з адселенай пасля Чарнобылю вёскі Белы Бераг, «адзінокім не з'яўляецца, бо ў яго ёсць дарослыя дзеці, якія, паводле заканадаўства, абавязаны яго даглядаць».

Тым часам прадстаўнікі адміністрацыі зон адсялення і адчужэння заяўляюць, што нанова выселяць Адама Рагаўца з Белага Берагу, паколькі вярнуўся ён сюды ў 2004 годзе незаконна.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**

# ЯК ВЫКАРЫСТОЎВАЕЦЦА РОДНАЯ МОВА Ў БЕЛАРУСІ

Міжнародны дзень роднай мовы быў абвешчаны ЮНЭСКА і адзначаецца штогод з 21 лютага 2000 года для таго, каб прыцягнуць увагу сусветнай грамадскасці да важнасці культурнай і моўнай разнастайнасці, а таксама - шматмоўнага адукацыі.

21 ЛЮТАГА
МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

Установы адукацыі ўсіх узроўняў у 2012/2013 навучальным годзе



| | дашкольная | агульная сярэдняя | сярэдняя спецыяльная | Вышэйшая |
|---|---|---|---|---|
| на беларускай мове | 45 тысяч дашкольнікаў 11.4% | 151 тысяча вучняў 16.4% | 1.4 тысячы навучэнцаў 0.9% | 0.7 тысячы студэнтаў 0.2% |
| на рускай і беларускай мовах | 15.2 тысячы 3.8% | | 22 тысячы 14.6% | 160 тысяч 37.4% |
| на іншых (пераважна рускай) | 84.8% | 83.6% | 84.5% | 62.4% |

У 2011 годзе з 11,1 тысячы кніг і брашур надрукавана



9% на беларускай мове



85% на рускай мове

У 2011 годзе з 918 найменняў часопісаў і іншых перыядычных выданняў




17% на беларускай мове




81% на рускай мове

Даныя: Белстат

Інфаграфіка: БелаПАН

# КАЛІ БЕЛАРУСЫ АТРЫМАЮЦЬ СТАТУЭТКУ «ОСКАР»?

Адзін з былых кіраўнікоў кінастудыі «Беларусьфільм» у свой час заявіў: не за гарамі той час, калі і беларускія кінематаграфісты створаць фільм, які абавязкова атрымае «Оскар». З тых часоў мінуў не адзін год, а «Оскарам» у нас так і не пахне... Чаму гэта так, разбіралася "Тут і цяпер".



*Пакуль Оскар нам толькі трызніцца*

## ТРЭБА МЯНЯЦЬ ПРАПІСКУ?

Кінарэжысёр **Юрый Хашчавацкі** таксама перакананы, што беларусы рана ці позна атрымаюць свой «Оскар».

«Мне здаецца, той кіраўнік« Беларусьфільма», які казаў пра «Оскар», разлічваў, што Лукашэнка стане прэзідэнтам ЗША і загадае адпаведнай камісіі ўзнагародзіць яго за ўклад у кінамастацтва, — смяецца Юрый Іосіфавіч. — Але, на жаль, гэтага не адбылося. І ўсё ж я думаю, што Беларусь можа атрымаць «Оскар». І гэта ўжо не жарт. У нас ёсць вельмі таленавітыя людзі, але, разумееце, талент і гвалт, на якім грунтуецца наша ўлада, несумяшчальныя. Таму цалкам магчыма, што ў найбліжэйшы час які-небудзь беларус і атрымае «Оскар», але паедзе атрымліваць гэтую статуэтку не з Беларусі, а, напрыклад, з Польшчы, куды некалькі гадоў назад з'ехаў з роднай краіны ў пошуках лепшай долі. У Польшчы, дарэчы, вельмі моцныя кінематаграфічныя традыцыі.

А тыя фільмы, якія ствараюцца толькі нашымі сіламі, гэта пакуль што больш аматарскае кіно. Чыноўнікі, якія сёння кіруюць кінамастацтвам, слаба ўяўляюць, якімі праблемамі жыве сучасны свет кіно, якімі катэгорыямі думаюць рэжысёры...».

**А ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...**

**Фільм, у стварэнні якога прымалі ўдзел беларусы, намініраваўся на «Оскар» у намінацыі «Лепшы кароткаметражны гульнявы фільм». Гэта карціна Хуаніты Уілсан «Дзверы» (The Door), сюжэт якой заснаваны на аповедзе Мікалая Калугіна, аднаго з герояў кнігі беларускай пісьменніцы Святланы Алексіевіч «Чарнобыльская малітва». Фільм пра тое, як бацькі хаваюць дачку, якая памерла ад радыяцыйнага апрамянення. У галоўнай ролі — вядомы артыст Ігар Сігаў. У сваіх інтэрв'ю Ігар не раз распавядаў пра тое, як пабываў на ўручэнні «Оскара» і нават прывёз сябрам пару «оскараўскіх» статуэтак (праўда, толькі сувенірных).**

## «СООБРАЗИТЬ» НА ТРАІХ

Вядомы кінакрытык **Ала Бабкова** лічыць, што перш чым замахвацца на «Оскар», трэба шмат што змяніць у нашай кінематаграфічнай сістэме.

«Беларускаму кінематографу ўласціва тая ж кіраўнічая мадэль, што і ўсёй грамадска-палітычнай сістэме: усё павінна быць пад ідэалагічным кантролем, па разнарадцы і па загадзе, — лічыць Ала Пятроўна. — А кіно — гэта творчасць, свабоднае самавыражэнне мастака.

Дзяржаўныя структуры па-ранейшаму баяцца канкурэнцыі незалежнага і дзяржаўнага кінасектара. У нас вельмі тонкі пласт кінапрадзюсарства па-за «Беларусьфільмам». Таму пакуль не зменіцца агульная сітуацыя ў краіне, мы не будзем мець моцную нацыянальную кінематаграфію, хоць кінастудыя і носіць назву нацыянальнай (маю на ўвазе мастацкія фільмы, бо ў дакументалістыцы і анімацыі поспехі ёсць)".

У апошнія гады кінастудыя «Беларусьфільм» стала актыўна далучацца да арт-праектаў. Напрыклад, разам з эстонцамі і латышамі беларусы стварылі фільм «Адзінокі востраў»; зусім нядаўна на шматлікіх міжнародных кінафестывалях прагрымела карціна Сяргея Лазніцы «У тумане», паводле аповесці Васіля Быкава (гэта сумесны прадукт пяці краін, у тым ліку і Беларусі; наш унёсак складае прыкладна 5-6 адсоткаў). У гэтым годзе выйдзе фільм расійскага рэжысёра Канстанціна Лапушанскага «Роля» сумеснай вытворчасці Расіі, Фінляндыі і Беларусі.

«Гэта выдатная карціна пра грамадзянскую вайну, пра тое, каму больш балюча: тым, хто забіваў падчас чырвонага тэрору, або тым, хто пазбег яго, — распавядае Ала Пятроўна. — Вельмі добрая карціна. Яна, мабыць, будзе ісці пасля таго, як пабывае на кінафестывалях.

Я станоўча стаўлюся да такіх арт-праектаў, таму што лепш укладваць сродкі ў кіно прэстыжнае, аўтарытэтнае, чым марнаваць іх на ўсякае тэлевізійнае «мыла» нізкай якасці, якое ў нас пераважае. Важна і тое, што «Беларусьфільм» інтэгруецца ў міжнародны кінапрацэс, вучыцца на практыцы рабіць кінапрадукцыю.

А што да «Оскара»... Калі камусьці ўжо вельмі хочацца яго бачыць, то можна ў Лос-Анджэлесе набыць яго паменшаную сувенірную копію, якая каштуе 35 долараў, і атрымліваць асалоду. Ведаю, што некаторыя расійскія акцёры менавіта так задавальняюць свае амбіцыі».

## ПРА ВАЙНУ ЎЖО НАДАКУЧЫЛА!

Драматург **Андрэй Карэлін** лічыць, што мы залішне захапіліся ваенным кіно і пры стварэнні фільмаў не прымаем міжнародныя стандарты.

**ТЫМ ЧАСАМ**

**Амерыканская акадэмія кінамастацтваў ужо завяршыла галасаванне за намінантаў прэстыжнай кінапрэміі. Усяго ў галасаванні бяруць удзел 5 856 акадэмікаў, сярод іх рэжысёры Квенцін Таранціна, Сафія Копала, Роджэр Корман, музыкі Браян Адамс, Эдж з групы U2. Лаўрэаты «Оскара» вызначаюцца ў 24 катэгорыях.**

Падлік галасоў правядзе міжнародная аўдытарска-кансалтынгавая фірма PricewaterhouseCoopers: аўдытары на працягу чатырох дзён будуць апрацоўваць запоўненыя акадэмікамі фармуляры. Уся працэдура традыцыйна праходзіць за закрытымі дзвярыма. Карткі з імёнамі пераможцаў будуць укладзены ў залацістыя канверты, якія распячатаюць падчас цырымоніі 24 лютага.

У гэтым годзе на сцэну для ўручэння ўзнагарод паднімуцца акцёры Майкл Дуглас, Джэніфер Эністан, Джэсіка Чэстэйн, Сальма Хаек, Джон Траволта, Ніколь Кідман, Холі Бэры, Рыз Уізерспун. Весці цырымонію будзе прадзюсар і рэжысёр Сэт Макфарлен.

У намінацыі «Лепшы фільм года» прадстаўлена 9 карцін: «Каханне», «Аперацыя« Арго»,«Звяры дзікага Поўдня»,«Джанга вызвалены»,«Адрынутыя»,«Жыццё Пі»,«Лінкальн», «Мой хлопец —псіх»,«Мэта нумар адзін».

«Напэўна, трэба, каб да кіравання асноўнай базай, дзе вырабляюцца беларускія фільмы, прыйшлі людзі, якія не аспрэчваюць нейкія галівудскія канструкцыі ў стварэнні сцэнарыя, як гэта робіць цяперашні кіраўнік, заяўляючы, што галівудская мадэль сцэнарыя нам не падыходзіць, — выказвае сваё меркаванне Андрэй Карэлін. — На сёння мы па-ранейшаму вынаходзім ровар: здымаем бясконцыя фільмы пра вайну, абсмоктваем адну і тую ж тэму — розныя варыяцыі пра «Золкі тут ціхія». Менавіта дысананс паміж прадукцыяй, выробленай «Беларусьфільмам», і патрэбамі сучаснага гледача робяць нецікавай нашу прадукцыю не толькі для Галівуда, але і для звычайнага беларускага гледача.

Што тычыцца прафесіяналізму беларускіх артыстаў, то, працуючы ў кіно, магу сказаць, што ў нас вельмі прафесійныя кадры. І нават моладзь, якая здымаецца ў расійскіх праектах, часцяком дае фору расійскім акцёрам. Акадэмія мастацтваў рыхтуе спецыялістаў, якія, як мне здаецца, не саступаюць выпускнікам ГІТІСа і УДІКа...».

**МАРЫНА МІТ**

**ДАРЭЧЫ**

**Тэлеканал АНТ будзе трансліраваць цырымонію ўручэння галоўнай штогадовай кінематаграфічнай прэміі свету «Оскар-2013» у панядзелак, 25 лютага, з 22.10.**

# ЗАЦВЕРДЗІЛІ ЗАДУМУ ВУЧЭННЯЎ «ЗАХАД-2013» «МОЖНА СКАЗАЦЬ, СУМЕСНАЙ АРМІІ БЕЛАРУСІ І РАСІІ»

Аляксандр Лукашэнка 21 лютага зацвердзіў задуму беларуска-расійскіх стратэгічных вучэнняў «Захад-2013», прадстаўленую яму ваеннымі, і даў даручэнні па яе дапаўненні, піша БелаПАН .

Вучэнні намечана правесці восенню гэтага года на тэрыторыі Беларусі.

Лукашэнка запатрабаваў у большай ступені звярнуць увагу на практычны бок, прыцягнуць да вучэнняў у поўным аб'ёме органы і войскі тэрытарыяльнай абароны. Асаблівую ўвагу таксама трэба надаць арганізацыі ўзаемадзеяння органаў кіравання і сістэмы арганізацыі нацыянальнай бяспекі.

Асаблівасцю вучэнняў будзе тое, што ў іх возьмуць удзел не толькі сілы рэгіянальнай групоўкі войскаў Беларусі і Расіі, але і Калектыўныя сілы аператыўнага рэагавання АДКБ.

Лукашэнка падкрэсліў, што правядзенне на тэрыторыі Беларусі вучэнняў «Захад-2013» не з'яўляецца пагрозай іншым дзяржавам.

«У адказ на заявы і домыслы аб гэтых вучэннях як аб „пагрозе з Усходу", што з'явіліся ў апошні час, хачу падкрэсліць: мы нікому не збіраемся пагражаць. Мы не лічым ніводную дзяржаву сваім праціўнікам. У нас абаронная дактрына, і гэта дакладна вызначана законам», — заявіў Лукашэнка.

Паводле яго слоў, Беларусь вітае ўсё, што садзейнічае ўмацаванню міру. «Так, мы не прымаем палітыку пагроз і двайных стандартаў. У гэтым заключаецца сіла і выразнасць нашай знешнепалітычнай лініі. Мы дзейнічаем адкрыта і паслядоўна, робячы ўпор на калектыўную абарону», — адзначыў Лукашэнка.

Лукашэнка падкрэсліў, што ўмацаванне агульнай ваеннай бяспекі і павышэнне магчымасцей па абароне Саюзнай дзяржавы вызначаны ў якасці прыярытэтнай задачы і гэта ні для каго не сакрэт.

«Зыходзячы з гэтага мы развіваем рэгіянальную групоўку войскаў Беларусі і Расіі, асновай якой з'яўляецца беларуская армія. Яе патэнцыял неабходна падтрымліваць на ўзроўні, які забяспечвае адбіццё любой агрэсіі, адкуль бы яны ні зыходзіла», — заявіў прэзідэнт.

«Асабліва актуальна гэта ў наш неспакойны час. Мы з вамі з'яўляемся сведкамі росту ўзброенага насілля і масавага кровапраліцця на сусветнай арэне. Таму нам порах трэба трымаць сухім. Нагадаю простую ісціну — армія павінна вучыцца ваяваць (на тое гэта і армія), быць у пастаяннай гатоўнасці да абароны суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці сваёй краіны. У гэтым выпадку размова ідзе аб абараназдольнасці, можна сказаць, сумеснай арміі Беларусі і Расіі, рэгіянальнай групоўкі войскаў на заходнім напрамку. Гэта наша зона адказнасці», — падкрэсліў Лукашэнка.

Ён таксама адзначыў, што за апошнія гады ва Узброеных сілах шмат зроблена па развіцці розных баявых сістэм, сіл спецыяльных аперацый і тэрытарыяльнай абароны. «Мы таксама не ўтойвалі, што мы сваю армію, як і расіяне, адаптуем да тых пагроз і выклікаў, якія сёння існуюць або якія могуць існаваць. Павышаем узровень узаемадзеяння ў ваенным і ваенна-тэхнічным супрацоўніцтве з нашым стратэгічным саюзнікам Расіяй і іншымі дзяржавамі АДКБ», — сказаў прэзідэнт.



*…І танкі нашы хуткія*

# БДА "ПЕСНЯРЫ" ПАГРАЖАЮЦЬ СУДОМ СТВАРАЛЬНІКУ САЙТА WWW.PESNYARY.COM

Кіраўніцтву ансамбля не падабаюцца негатыўныя каментары, бо яны "нічым не падмацаваныя". Фёдар Караленка выдаляць каментары адмаўляецца, перадае Еўрадыё.




Стваральнік сайта www.pesnyary.com **Фёдар Караленка** паведамляе **Еўрарадыё**, што кіраўніцтва **БДА "Песняры"** пагражае яму судом за крадзеж інтэлектуальнай уласнасці:

*"Ведаеце, як у байцы* Крылова*: "Ты виноват уж тем, что хочется мне кушать",* — дзеліцца ўражаннямі ад сустрэчы з кіраўніцтвам ансамбля **Фёдар Караленка**. — *Ім не падабаецца тое, што пішуць людзі пра іх на форумах, яны жадаюць кантраляваць гэтую інфармацыю. Яны праз адзінаццаць гадоў чамусьці вырашылі, што сайт эксплуатуе іх гандлёвую марку, бо ў назве ёсць "***Песняры***". Пагражаюць судамі, забраць даменнае імя, пагражаюць Адміністрацыяй прэзідэнта і іншымі структурамі, якія будуць далучацца".*

Ёсць тры варыянты рашэння канфлікта: цалкам закрыць сайт, аддаць сайт ім, ці камбінацыя папярэдніх двух варыянтаў, дадае **Караленка**.

Кіраўніцтва **БДА "Песняры"** настойвае, што стваральніку *www.pesnyary.com* не пагражае. Маўляў, яны шмат гадоў закрывалі вочы на выказванні наведвальнікаў форума, але зараз вядзецца актыўная праца па абароне дзяржаўнага брэнда "**Песняры**". Таму і наспеў час разабрацца.

*"Уявіце, што на форумах фірмовага сайта якога-небудзь прадукта будуць пісаць, не саромеючыся выказванняў, што гэты прадукт — дрэнны,* — тлумачыць прэтэнзіі дырэктар ансамбля Сяргей Маеўскі. — *Дык чаму ж www.pesnyary.com сабе гэта дазваляюць? Там абмяркоўваецца ўсё што заўгодна, ад клонаў гурта да рэчаў, якія не датычацца творчасці "Песняроў" увогуле. Таму гэта не фан-сайт, што заўгодна, але не фан-сайт. А* **Фёдара** *мы папрасілі дапамагчы як-небудзь гэтую сітуацыю разруліць. Прапанавалі, напрыклад, правесці размову з людзьмі, што пішуць, каб не ўсё так аднабока выглядала… Карацей, прыбраць прадузятыя каментары. Іншы варыянт быў спакойна аддаць нам гэтую марку, бо мы не жадаем судзіцца".*

Трэба адзначыць, што адразу пад назвай сайта "Песняры.com" змяшчаюцца словы "неафіцыйны фан-сайт".

Прапанаваную здзелку **Фёдар Караленка** лічыць смешнай. У 2004 годзе ён ужо судзіўся з **Ігарам Лучанком** за размешчаныя на сайце спасылкі на спампоўку песень. Суд **Фёдар** прайграў, і адразу ж вырашыў закрыць сайт, але суполка, што склалася вакол яго, была супраць.

*"Там людзі размаўлялі, уздымалі важныя тэмы, знаходзілі старыя песні, якія былі згубленыя,* — узгадвае стваральнік сайта. — *Таму я паўсюль зняў свой капірайт і аддаў правы адміністратара адразу некалькім людзям. Па факце я перадаў сайт суполцы сталых удзельнікаў форума. Цяпер гэта віртуальны фан-клуб".*

**ІЛЛЯ МАЛІНОЎСКІ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 21.02.13
Тыраж 299 экзэмпляраў